Dadatak da „Chryscijanskaj Dumki“

№ 1 (12) Vilnia, Studzień 1939 h. Hod II.




# Z Novym Hodam...

Stary hod za nami, stary hod adyjšoŭ ad nas nazaŭsiody. Što jon nam daŭ? Nia mała čaho błahoha, ale ab hetym niavarta havaryć. Lepš prypomnim dabro, jakoje nam daŭ toj-ža minuły hod.

Pradusim navučyŭ jon nia mała našych maładniakoŭcaŭ hramaty, čytać, pisać, rachavać, a tak-ža mnohija paznali, što jany Biełarusy i palubili svoj narod, svoj biełaruski jazyk, svaju historyju. Vučyŭsia hetaha ŭsiaho naš biełaruski maładniak rozna — chto ŭ škole, chto pryvatna, chto adzin ad druhoha, a chto praz biełaruskuju knižku i hazetu.

Nia mała da paznańnia świetu pamahła našamu maładniaku i rodnaja „Zorka“, jakaja ci mała padavała cikavaha i karysnaha matarjału. Byli tam vieršy, bajki, apaviadańni, cikavyja viestki i inš. Užo „Zorki“ majem cełу hadavik. Dumajem, što našyja maładyja pryjacieli, jakija majuć hadavik „Zorki“, buduć časta jaho pieralistyvać i čytać, a jakija nia majuć, — pastarajucca jaho vypisać z redakcyi i tak-ža nia mała z jaho skarystajuć.

A što-ž naš maładniak pavinien rabić u Novym— 1939 — Hodzie? Pradusim pavinien vučycca i vučycca. Chto ŭ školu chodzić, — niachaj tam starajecca z usich sił paznavać praŭdu, a chto doma, — niachaj



vučycca pryvatna, sam praz siabie. Historyja znaje ci mała takich zdareńniaŭ, što z samavukaŭ často pavychodzili roznaha rodu vialikija vučonyja i inšyja vialikija dabradziei čałaviectva.

Maładniak naš pavinien abaviazkava parupicca ab tym, kab baćki ich vypisvali „Chryścijanskuju Dumku“, a razam z joj i „Zorku“. Pavinny tak-ža paprasić svaich baćkoŭ, kab jany ahułam nikoli nie zabyvalisia ab biełaruskaj knižcy. Treba viedać, što rodnaja knižka ŭ chacie, — heta najvialikšy naš pryjaciel.

Z nahody Novaha Hodu naš maładniak pavinien abjavić samuju rašučuju baraćbu z kureńniem, z pjanstvam, i z roznymi inšymi błahimi pryvyčkami, jakija hubiać žyćcio narodu.

Urešcie nie pavinien naš maładniak zabyvacca ab carkvie i kaściele, pavinien tam byvać i pryjmać učaście ŭ Službie Božaj i ahułam u malitvach, karystajučysia pry hetym z biełaruskich malitaŭnikaŭ.

Voś hetkimi dumkami i žadańniami dzielimsia my z biełaruskim maładniakom, stojačy na parozie novaha hodu i prystupajučy da vydavańnia „Zorki“ druhi hod. Dyk z Boham napierad!...



# Новаму Году

Ня першы раз цябе вітаем
Між шэрых дзён о, Новы Год!
І безнадзейна пазіраем
На рой віруючых нягод.

Цябе вітаем ля парога,
Сьціскаем ў сэрцы сум і жаль,
Глядзім, як іскрыцца дарога,
Дзе стары год шмыгнуў у даль.

Табе-ж на плечы ускладаем
Рой новых дум і рой клапот
І ў бесканечнасьць пазіраем,
Каб нам з табой шагнуць ўпярод.

Мо' усьміхнесься, Новы Год,
Нам днямі сонцавых праменьняў,
Мо' шчасьця ўбачым мы прыход
На зьмену горасным цярпеньням.

*П. С.*

---

* * *

Źvini zvanok! Imčysia
Moj koń, ŭ sanioch, barździej!
Hulaje chaj miacielica.
źvini zvanok, macniej!

U pieraboj miacielicy,
Z viatrami uzdahon!
Chaj zoračka raspalicca
Nad sonnaju ziamloj.

Źvini zvanok nad krajem
Zasonienych ludziej,
Uźniasi ich ducha krylli.
źvini zvanok, macniej!

S.

# Z Novym Hodam

Ciomna. Noč na śviecie. Maroznaja ciša pływie na ziamlu. Tolki bieleńki śniažok cicha šuršyć za vaknom. Z abviššaha sivoha nieba sypicca skrypučy biełу puch. A siarod hetaj cišy, nad biełaj raŭninaj, padyjmajecca i dryžyć u pavietry radasnaje čakańnie: za chvilinu — kali na hadzińniku vybje dvanastaja — źjavicca 1939-ty Novy Hod, a z im novyja nadziei, novyja plany na novaje zmahańnie.

Zaŭsiody tak byvaje, što biaz žalu prapuščajem Hod Stary, a z radaściaj u sercy pahladajem na pieršyja bleski Novaha Hodu, spadziajučysia, što śviežy dzień na kalendary pryniasieć nam lepšuju budučyniu — biazuzhladna lepšuju ad minuŭščyny. Bo ŭvieś naš postup u žyćci palahaje na žadańni, kab našaje zaŭtra było lepšaje ad dnia siahońniašniaha i ŭčarajšaha.

Dobry zavioŭsia ŭ nas zvyčaj, katory ŭ pieršy dzień studzienia nakazvaje našym ludziam składać uzajemnyja pažadańni ŭsiaho najlepšaha. Voś-ža i my, maładyja supracoŭniki „Zorki", vyrazim svaje Novahodnija pažadańni: kab nam było lepiej i jak najlepiej, kab adstupili ad nas sum i hora, a ŭ sercy našyja ŭstupiła mahutnaja siła žyćcia na lepšuju darohu!

**Jazep Lachovič**

---

# Б У Р А

Над маёю вёскай
Загудзелі ветры
Песьняю жалоснай,
Як ваўкі у нетры.

Саламяны стрэхі
Вецер абрывае,
Аж коцяцца рэхі,
Як віхор гуляе.

Неба засланілі
Хмаранькі сівыя
І затанцавалі
Зоркі сьнягавыя.

*П. С.*

# ХВАЛА БОГУ НА ВЫШЫНАХ!..



## Zimovy viečar

Kruhom ŭsie darohi
Śnieham zamiało,
Śnić sny viesnavyja
Rodnaje siało.

Nia čuvać ni pieśniaŭ,
Nia čuvać i śloz,
Tolki za vuhłami
Treskaje maroz.

Nočańka zimovaja,
Jak-ža doŭha ty!
Viosačka hłuchaja,
Čym mnie luba ty?

P. S.

# ГІСТОРЫЯ КНІЖКІ

Трудна сяньня прадставіць сабе жыцьцё бяз кніжкі й газэты, наагул без друкаванага слова. Газэты, якія так мала даходзяць да нас, зьяўляюцца галоўным дзейнікам нашае веды, а людзі, што пішуць кніжкі, слаўнейшыя ад каралёў.

Аднак не заўсёды гэтак было. Каб друкаванае слова магло стацца магутнасьцяй, мусіў быць вынайдзены друк. Адкрыўцам гэтага друку ёсьць Іван Гутэнбэрг.



Іван Гутэнбэрг

Іван Гутэнбэрг паходзіў з г. Майнца й больш, чымся 20 год, правёў у стараньні выдумаць лёгкі спосаб распаўсюджываньня рукапісаў. Раптам яму першаму прыйшло на думку вырэзываць з дрэва асобныя літары, зь якіх складаліся-б словы. Досьлед хутка паказаў, што трэба замяніць дрэва больш цьвярдзейшым матарыялам і Гутэнбэрг пачаў выразаць літары з волава, але ня маючы на гэта грошаў, прыймае да сябе залатніка Фуста, а пасьля Шэффара і гэты замест вырэзываць літары пачаў выліваць. Гэткім чынам паўстала друкарская рухомая літара і ў 1456 г. былі надрукаваныя першыя кніжкі. У 1456 г. выйшла першае выданьне Бібліі (Сьвятое Пісьмо) — была гэта найбольшая

праца жыцьця Гутэнбэрга. Мала экзэмпляраў гэтае Біблії захавалася да сяньняшняга часу; ня трэба тут дабаўляць, што перахоўваюцца яны пад асаблівай апекай у музэях. У 1460 г. выйшла другое выданьне Біблії, а ў 1457 г. выйшла першая кніжка з датай і названая „друкам“.

Ад Немцаў штука друкаваньня хутка прыйшла ў Вэнэцыю і Рым.

У XVI і XVII стагодзьдзях наступіў вялікі росквіт друкарскай штукі ў Галяндыі.



**Доктар Францішак Скарына, першы беларускі друкар.**

Мы, Беларусы, можам быць гордымі з таго, што Беларусь была другім па парадку краем на сьвеце, у якім пачалі друкаваць кнігі. Ужо ў 1491 годзе, 35 год пасьля, як выйшла слаўная Гутэмбэрга Біблія, у Кракаве першы пачаў друкаваць кніжкі кірылаўскімі літарамі Швайпольт Фіоль. Адціснуў ён пяць царкоўных кніжак. На жаль мусіў кінуць гэту працу і ўцякаць, бо быў абвінавачаны ў гэрэзыі.

Аднак першая друкаваная беларуская кніжка — Псалтыр Скарыны, першая кніжка з яго Біблії, — выйшаў з друку ў Празе 6 жніўня 1517 году.

Пачатак старога (кірылаўскага) беларускага друку на Беларусі прыпадае на 1525 г.

Пачатак новага беларускага друку прыпадае на 1835 год,—выйшла тады першая беларуская катахізмоўка друкаваная лацінкай.

Сяньня ў аднэй Вільні больш ёсьць друкарняў, чымся ў тыя часы на ўсім сьвеце. Тысячу людзей хіляцца ў друкарнях над коса пастаўленымі столікамі поўнымі літараў. Працавітыя і ўважныя пальцы бязупынку ўкладаюць роўныя лінейкі, якія чытаць будзем ужо заўтра на балонках газэтаў і кніжак.

Але сяньня ўжо ня ўсё, што чытаем, паўстала гэткім працавітым спосабам. Чалавек бязупынку высілівае свой мозг, каб палепшыць працу рук.

Сяньня друкуецца хутка. Новыя ротацыйныя машыны б'юць па 12, па 50 тысяч друкаў на гадзіну.

А як інакш перш было, пяцьсот год таму назад. І тады былі кніжкі, але не такія, як сяньня. Пісаліся яны рукамі, пераважна па манастырох. Ні адзін пабожны манах правёў усё сваё жыцьцё над перапісываньнем кніжак, якія аздабляў прыгожымі малюнкамі. Кніжкі былі тады дарагія, прыкоўваліся ланцугамі да сьценаў, каб ніхто ня ўкраў, бо яны станавілі дарагую маемасьць.

Ведама, ня ўсе кнігі былі аднолькавыя. Але найменш старанна пісаныя каштавалі надта дорага. А пекны пабожны твор каштаваў столькі, што й вялікі фальварак. Толькі надта багатыя людзі маглі пазволіць сабе купіць кніжку.

Толькі дзякуючы рухомым літарам Гутэнбэрга слова магло разыйсьціся па зямлі, думка магла зацьвіцець і зьмяніць выгляд сьвету.

Нажаль мы, Беларусы, у параўнаньні з іншымі народамі кніжак маем ня надта многа. Кожны, хто не шануе кніжак, нішчыць іх і прычыняецца да нішчэньня, паступае, як вораг асьветы, зьменшвае багацьце свайго народу.

*Грышка Б.*



# Dzieci i ptuški

Dzieci, pamiatajma ab ptuškach! Adlacieli ŭ vyraj našyja piavuny. Astalisia adnak nieadstupnyja našy pryjacieli i tavaryšy zimovych dzion: sinički, haluby, vierabji i šmat inšych.

Cierpiać jany zimoj i padčas zaviejaŭ hoład i choład. Treba pryjšci im z pomačaj, staŭlajučy skrynki. Skrynki hetkija służać ptuškam uzimku, jak achrona pierad zaviejami, vietram i marozam, a na viasnu achvotna załožać jany tam svaje hniaździečki.

Nie zabyvajcie tak-ža ŭzimku i dakarmlivać ptušak. Davać možna roznyja zierniaty, kanopli, syryja jahady, rabinu. Možna sypać i suchija kroški chleba, ale ich jaduć tolki vierabji, saroki i varony. Inšyja ptuški tolki ŭ krytyčnym mamencie. Ježu pasypać na prostaj doščy. Ale kali ŭžo pasypali raz, to starajciesia i kožny dzień, bo ptuški pryvykajuć da miesca i kali nie najduć tam ježu, to hinuć z hoładu.



Miłaserdzie da ptušak pryhoža śviedčyć ab dziacioch. Dzieci pavinny hetym adznačacca.

Londanskaje (Anhielskaje) Tavarystva apieki na źviarmi vystaviła ŭ Hyde Parku (Hejd Park) pamiatnik na čeść źviaroŭ, što źhinuli padčas vajny: pradstaŭlaje jon ranienaha kania i sabaku na vajnie.

Tak jašče ŭ siaredniavieččy apiekavalisia ptuškami. Śviaty Izydar, hišpaniec, choć sam byŭ biedny, ale ab ptuškach nie zabyvaŭ. Kožny raz uzimku vysypaŭ ziernie i kroški hałodnym ptuškam, choć z jaho śmiajalisia i nie pazvalali hetak rabić.

A ptuški letam adudziačacca. Usie čarviaki i muški z sadoŭ pažbirajuć i buduć viesieła nam piajać.

**Hryška B.**

# Lisica i rak

Ubačyła lisica raka. Pačała pryhladacca, jak jon pamalieńku paŭzie, a paśla davaj śmiajacca z jaho.

— Nu i sprytny-ž ty, niama čaho kazać! Praŭdzivy rak-niebarak. A skažy mnie, rača, ci to praŭda, što ty siem hadoŭ pa vadu chadziŭ, dy i tuju na parozie raźliŭ?

— Moža kali praŭda była, — kaža rak, — a ciapier brachnioju stała. Davaj u zakład pajdu z taboju, što pieršy da taho karča dabiahu.

— Dobra.

Stała lisica na adzin šah pierad rakam, a rak ciškom učapiŭsia klešniami joj za chvost. Pabiehła lisička, biažyć z usiaje siły, ažno pył kuryć pad nahami. Dabiehła da karča i kliča:

— A dzie ty, rača? — dy abiarnułasia chvastom da karča.

A rak saskočyŭ z chvasta dy adklikajecca:

— Ja tut užo daŭno ciabie čakaju.



Advažnaja dziaŭčynka i spakojny vuž.

# Прыгода Антося

Бацька ягоны —бедны араты,
Матка убогая швачка.
Як толькі Антось троху вырас з пад столу,
Бацька паслаў пасьціць гусі:
Зьвіў яму пугу й адправіў у „школу.“
Дзень адзін пасьціў, другі і трэцьці,
А на чацьверты даела.
Буркнуў пад нос: „няхай іх чэрці
тут даглядаюць!“ і сьмела
Пабег на вёску і выбіў вокны
Свайму блізкому суседу.
Потым падумаў:
„Па ставе лодкай праеду.“
А тут, на гора, няма нігдзе лодкі —
Ніякай дошкі, калоды.
Бачыць— пад ставам, у кустох укрыты
На пчолы лежань вялікі...
Антось адразу, ня ў цемя біты,
Бяжыць к‘ яму, як місь дзікі.
Калода коціцца к ставу.
Антось садзіцца на яе скора
І ўжо мае забаву.
Ўжо выабражае сябе матросам,
Плавае па акеянах
Аж тут штось раптам над самым пасам
Шумець пачала. І цела ў ранах.
Ў аднэй хвіліне як-бы у вары
Гарэць зачало вагнём нязносным.
Бачыць ён—пчолы праз усе шчэліны
Лезуць усе на яго беднага.
Антось крыкнуў, што было сілы, ды
зараз скочыў і стаў.
На яго целе напружыліся жылы,
Ня мог ўжо плысьці
І пачаў тонуць, траціў прытомнасьць,
Сьвет ўжо дрыжэў прад вачыма.
Адчуў страшэнна сваю самлеласьць,
Стараўся,
Каб ў апошнюю хвіліну
Каго пазваць на ратунак. Але
Як ён толькі губу разінуў,
Вада забіла сьведамасьць думак.
На шчасьце матка пачула
Крык Антося.
Зараз прыбегла і як глянула, —

Усё зразумела, што сталася!
І закрычала магутным крыкам.
Людзі прыбеглі.
І ўратавалі Антося.
Ляжаў ён потым доўга бяз руху.
Хоць ваду з бруха выпампавалі,
Усёжткі чуў ён — пагана.
Болі нязносны косьці ламалі.
Хаця на дварэ сьвяціла сонца,
Хаця сьпявалі за вакном птушкі,
Антось быў слабым яшчэ.
Ня мог падняцца з сваей пасьцелі,
Ляжаў так тыдзень, ляжаў і месяц,
А ўсё ня была відаць папраўы.
Цяпер ня раз ён, а на‘т ня дзесяць,
Праклінаў шчыра усе забавы
І зрабіў моцную ўжо пастанову:
Слухаць заўсёды бацькі і маткі.
„Ох каб я толькі стаўся здаровы,
Ўжо буду я іншы.“
І Бог паслухаў хутка Антося —
Вярнуў здароўе яму і сілу.
Я яго бачыў у гэту восень —
Трудна спаткаць больш дзяціну мілу,
Антось, паслушны бацьку і матцы,
І да таварышаў добры, вясёлы.
А мне казалі, што ў гэтым годзе
Антось з хлапцамі пойдзе у школу.

*У. Б.*



# Маладняк піша

### Чуткі невясёлыя

*В. Кашэўнікі.* Наша моладзь жыве някультурна. Ні дзяўчаты ні хлопцы газэт ня выпісваюць і кніжак ня чытаюць. Ня цікавяцца жыцьцём, гісторыяй ня толькі іншых народаў, але і свайго.

У нашай вёсцы надовячы была музыка. Спачатку маладзяж гуляла прыгожа. А пасьля многа хлапцоў паўпівалася. Знайшліся такія, што пачалі біцца. Аднаму разьбілі галаву. Пабілі вокны,

У суседняй вёсцы ёсьць 7-мі клясовая школа. Пазалетась у гэтай школе ў тыдзень вучылі 4 гадз. пабеларуску, а летась і сёлета толькі 1 гадзіну. Прычыны гэтае зьмены я ня знаю.

Адно толькі весяліць маю душу, што летам цёплымі вечарамі моладзь пяе беларускія песьні.

*Янка Кісель*

---

# Žarty

* * *

— Słuchaj Anicet — kaža žonka da muža, — dzie ty dzieŭ 30 złotych, što ŭziaŭ za parsiuka na kirmašy.

— A voś, maja ty hałubka, złot tut, złot tam, za dvaccać złotych tarhavaŭ tabie šalik, dyk i pa hrašach.

* * *

— Kupryjan — kaža palicyjant da haspadara — zapłaciš štraf, što chlavy blizka chaty.

— A što ž heta kamu škodzić?

— Heta-ž niazdorava!

— Nu, heta vydumka, jašče ŭ mianie nivodnaja švinia nie chvareła.

### Baba j zajac

Sumavała baba, jak damoŭ išła,
Što praz darohu pierabieh zajac.
A zajac siem raz bolšuju ŭ sercy pačuŭ tryvohu,
Što jamu baba ŭlezła ŭ darohu.

---



## „Zorčyna“ pošta

**I. L.** Atrymali, prośbu spaŭniajem, z matarjału pakrysie skarystajem, na probnyja adrasy hazetu pasyłajem.

**I. K.** Jak bačycie, karystajem i budziem karystać.

**I. B.** Na žal nijak nie ŭdałosia papravić vašych vieršaŭ, kab možna ich było puścić u druk.

**P. S.** Sioje-toje drukujem, z rešty tak-ža skarystajem.

**I. L.** Karystajem. Z rešty skarystajem u nastupnym numary.

**S.** Drukujem. Nia žhinuŭ, jak bačycie.

**H. B.** Znajšli stary zapas i drukujem. Čakajem ad vas bolš.

**U. B.** Karystajem. Pišycie bolš.

---

# Dzietki!

## Paznavajcie biełaruskuju abecedu hraždanku!

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# MAŁADNIACKAJA BIBLIATEČKA

*cana*

**A. V.** — Betlejka. Sceničny abrazok u vadnym akcie. Vyd. „Chryścijanskaj Dumki“ 0.20

**Advažny Vincuk** — Kazka ab rybaku i rybcy. Vyd. St. Hlakoŭskaha i J. Najdziuka 0.20

**Advažny Vincuk** — Hanuliny Kłopaty (Humarystyčnaje apaviadańnie vieršam). Vyd. „Bieł. Krynicy“ 0.30

**A. V.** — Jak Kaziuk sabraŭsia da spoviedzi. Vyd. „Chryścijanskaj Dumki“ 0.30

**A. V.** — Kaziukova Žanimstva. Vyd. „Chr. Dumki“ 0.30

**Андэрсэн Ганс—Хрыстыян** — Казкі. Выд. Мін. Бел. Спраў. Коўна 0.50

**Bahuševič Fr.** — Dudka Biełaruskaja. Vyd. Bieł. nst. Hasp. i Kultury ŭ 30 ja ŭhodki śmierci Fr. Bahuševiča 0.30

**Bahuševič Fr.** — Smyk Biełaruski. Vyd. Bieł. Inst. Hasp. i Kultury ŭ 30-ja ŭhodki śmierci Fr. Bahuševiča 0.30

**Bahuševič Fr.** — Dudka Biełaruskaja i Smyk Biełaruski. Z krytyčnym narysam Ad. Stankieviča ab žyćci i tvorčaści Fr. Bahuševiča ŭ 30-ja ŭhodki Jahonaj śmierci. Vyd. Bieł. Inst. Hasp. i Kultury 1.00

**Друцкі-Падбярэскі** — Байкі, гумар і сатыра. Сшыток I і II. Выд. Клецкіна 1.20

**Hadleŭski V. Ks.** — Historyja Śviataja abo biblijnaja Novaha Zakonu. Vyd. T va Bieł. Kat. Vydaviectva . 1.50

**Hadleŭski V. Ks.** — Historyja Śviataja Staroha Zakonu. Vyd. T-va Bieł. Kat. Vydaviectva 1.00

**арэцкая Л.** — Родны Край. III і IV пасьля лем. кніга да чытаньня. Выд. Т-ва Бел. Школы 2 80

**Hareckaja L.**—Rodny Kraj. Č.I. Vyd.T-va Bieł.Škoły 1.00

**оголь М.** — Тарас Бульба. Выд. Клецкіна. Ведамая расейская повесьць. На беларускую мову пераклаў Краўцоў Макар 1.50

**уш ча Тарас**— Казкі жыцьця. Выд. Клецкіна 0.75

**Ядвігін Ш.** — Бярозка. Выд. Клецкіна 0.40

**Jöergensen J.** — Prypovieści. Pierakłaŭ na biełaruskuju movu X. P. T. Vyd. „Bieł. Krynicy“ 0.25

**Караленко Ул.** — Сьляпы музыка. З расейскай мовы пераклаў Краўцоў Макар. Выд. Клецкіна 1.50

**Казячы Г.** — Неба і зоры. Пераклад з расейкай мовы. Выд. Мін. Бел. Спраў. Коўна 0.30

**Лёсік Я.** — Ня ўсе-ж разам ягамёсьці. Выд. Бел. Выдавецкага Т-ва . . . . . . . . . . . . . . . . . . 0.40

**Лункевіч В.** — Закон жыцьця сярод жывёлаў і расьцін. Выд. Мін. Бел. Спраў. Коўна . . . . . . . . 0.60

**Марк Твэн** — Прынц і жабрак. Выд. Клецкіна . 1.50

**Паўловіч С.** — Сьвяшчэнная Гісторыя Старога Завету. Выданьне аўтара . . . . . . . . . . . . . . . 1.00

**Паўловіч С.** — Першыя Зернякі. Беларуская граматка для хатняга навучаньня. Выд. Я. Малецкага . . 0.50

**Паўловіч С.** — Пішы самадзейна. Разьвіцьцё навыку самастойнага пісьма. Выданьне аўтара . . . . . 1.35

**Праваслаўны Малітваслоў** на царкоўна-славянскай і беларускай мове . . . . . . . . . . . . . . . . . 0.50

**Рубакін Н.** — Расказы аб вялікіх падзеях розных часоў і народаў. Пер. Краўцоў Макар. Выд. Клецкіна 1.50

**Sadok dla našych dzietak.** Vyd. „Bieł. Krynicy" . 0.15

**Сенкевіч Г.** — Бартак Пераможнік. З польскай мовы пераклаў Краўцоў Макар. Выд. Бел. Выдав. Т-ва 0.80

**Смоліч А.** — Зорка. Часьць II. Беларуская граматка. Выд. Бел. Выдав. Т-ва . . . . . . . . . . . . 0.75

**Stepovič K. Ks.** — Hołas Dušy. Knižka da nabažeństva dla Biełarusaŭ-Katalikoŭ. Vyd. II. Biełaruskaha Katalickaha Vydaviectva . . . . . . . . . . . . . . . . . . 0.50

**Тарас на парнасе.** Выд. Ст. Станкевіча . . . . 0.20

**Талстой Леў.** — Для дзяцей. Пераклаў з расейскага Краўцоў Макар. Выд. Клецкіна . . . . . . . . 1.50

**Талстой Леў** — Ад чаго зло на сьвеце і другія апавяданьні. Выд. Знамяроўскага . . . . . . . . . . . 0.20

**Талстой Леў** — Ці шмат чалавеку трэба зямлі і другія апавяданьні. Выд. Знамяроўскага . . . . . . . 0.25

**Knižki možna vypisać z biełaruskaj kniharni „P A H O N I A" — Vilnia, Zavalnaja 1.**




Redaktor J. Poźniak
Redaktar: J. Paźniak

Vydawca Ks. Ad. Stankiewicz
Vydaviec: Ks. Ad. Stankievič

Białoruska Drukarnia im. Fr. Skoryny, Wilno ul. Zawalna 1—2.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny ŭ Vilni, Zavalnaja 1.